ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№№173–174 (1736–1737)

Субота, 13 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +18...+20, уначы — +8...+10; у Брэсце ўдзень — +17...+19, уначы — +8...+10; у Гродне ўдзень — +18...+20, уначы — +8...+10; у Віцебску ўдзень — +16...+18, уначы — +8...+10; у Гомелі ўдзень — +18...+20, уначы — +8...+10; у Магілёве ўдзень — +18...+20, уначы — +8...+10.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца воблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Жарэс Алфёраў — ганаровы грамадзянін Віцебска

12 верасня на сумесным пасяджэнні прэзідыума Віцебскага гарсавета і гарвыканкама прынята рашэнне аб прысваенні звання "Ганаровы грамадзянін горада Віцебска" лаўрэату Нобелеўскай прэміі 2000 года, ураджэнцу абласнога цэнтра Жарэсу Алфёраву. Так мясцовыя ўлады вырашылі ацаніць яго "вялікі ўнёсак у развіццё беларускай навукі, аказанне пастаяннай метадычнай і практычнай дапамогі маладым навукоўцам і актыўную грамадскую дзейнасць".

**Даведка БелаПАН.** Ж.Алфёраў нарадзіўся 30 сакавіка 1930 года ў Віцебску. У 1947 годзе скончыў з залатым медалём школу ў Мінску і паступіў на энергетычны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Потым вучыўся ў Ленінградскім электратэхнічным інстытуце імя У.І.Ульянава (Леніна), на факультэце электронікі, які скончыў з адзнакай у 1952 годзе па спецыяльнасці "электравакуумная тэхніка". Пасля заканчэння інстытута, з 1953 года і па сёння працуе ў фізіка-тэхнічным інстытуце імя А.Ф.Іоффэ РАН (пачынаючы з малодшага навуковага супрацоўніка, старшага навуковага супрацоўніка, загадчыка лабараторыі, дырэктар). З 1990 па 1991 гг. — віцэ-прэзідэнт АН СССР, старшыня прэзідыума Ленінградскага навуковага цэнтра, з 1991 года па гэты час — віцэ-прэзідэнт РАН, старшыня прэзідыума Санкт-Пецярбургскага навуковага цэнтра РАН.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## Прызначылі!

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы прызначыў генерал-маёра **Люцыяна СУРЫНТА** намеснікам камандуючага Сухапутнымі войскамі Узброеных сіл — начальнікам упраўлення баявой падрыхтоўкі і падрыхтоўкі рэзерваў, вызваліўшы яго ад пасады начальніка Галоўнага штаба — першага намесніка камандуючага Сухапутнымі войскамі. На пасаду начальніка Галоўнага штаба — першага намесніка камандуючага Сухапутнымі войскамі прызначаны генерал-маёр **Аляксандр НІКІЦІН**, які раней займаў пасаду камандуючага войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання Узброеных сіл.

Палкоўнік **Валерый ХАХЛОЎ** зойме пасаду камандуючага войскамі Заходняга аператыўнага камандавання Узброеных сіл, пакінуўшы пасаду начальніка штаба — першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання. На пасаду начальніка штаба — першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання прызначаны палкоўнік **Іван ЧАВУС**.

Палкоўнік **Сяргей БАРЫСЁНАК** прызначаны камандуючым войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання, ён вызвалены ад пасады першага намесніка начальніка Ваеннай акадэміі.

Генерал-маёр Анатоль Нікіцін вызвалены ад пасады камандуючага войскамі Заходняга аператыўнага камандавання і залічаны ў распараджэнне міністра абароны.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Э.Хайкен мяркуе, што закрыццё некаторых няўрадавых арганізацый у Беларусі — частка больш шырокай кампаніі ўлад



Кіраўнік Офіса АБСЕ ў Беларусі Эберхард Хайкен выказаў занепакоенасць у сувязі з закрыццём некаторых беларускіх няўрадавых арганізацый, назваўшы дзеянні ўлад супраць "трэцяга сектара" часткай больш шырокай кампаніі. Офіс АБСЕ ў Мінску зрабіў адпаведную заяву пасля таго, як Мінскі гарадскі суд 8 верасня прыняў рашэнне аб ліквідацыі грамадскай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву".

У заяве падкрэсліваецца, што назіральнікі ад АБСЕ, якія прысутнічалі на працэсах, адзначылі фармальны і нязначны характар большасці абвінавачванняў, прад'яўленых уладамі няўрадавым арганізацыям.

Напрыклад, як гаворыцца ў заяве са спасылкай на Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК), гэтая арганізацыя атрымала папярэджанне ад Міністэрства юстыцыі за адсутнасць двукосся ў назве арганізацыі на бланку і пячатцы.

"Ліквідацыя адладжаных няўрадавых арганізацый, якія зарэкамендавалі сябе, у такіх умовах падаецца занадта жорсткай мерай, непрапарцыянальнай дапушчаным парушэнням", — падкрэсліў Эберхард Хайкен.

Кіраўнік Офіса АБСЕ выказаў сваю занепакоенасць неадпаведнасцю паміж прычынай і пакараннем, што прымяняюцца ў дачыненні да няўрадавых арганізацый, у лісце, які ён накіраваў міністру юстыцыі Віктару Галаванаву 28 жніўня.

"Выкарыстанне існуючага заканадаўства супраць няўрадавых арганізацый наўрад ці было задумана тымі, хто пісаў гэтыя законы, і, у любым выпадку, робіць больш цяжкім працу офіса па выкананні адной з яго асноўных задач: развіваць і ўмацоўваць стасункі паміж урадам прымаючага боку і грамадзянскай супольнасцю Беларусі", — гаворыцца ў заяве Офіса АБСЕ.

За апошнія некалькі тыдняў судовымі рашэннямі былі закрытыя рэгіянальныя рэсурсныя цэнтры "Ратуша" ў Гродне, "Грамадзянскія ініцыятывы" ў Гомелі, "Цэнтр маладзёжных ініцыятыў "Контур" у Віцебску і шэраг іншых уплывовых дэмакратычных арганізацый.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

# Са святам, Мінск!



## Бясплатна!

*Сёння, у Дзень горада, камунальны транспарт грамадскага карыстання сталіцы (тралейбусы, аўтобусы, трамваі, метро) перавозіць пасажыраў бясплатна*

Як паведаміла прэс-служба Мінгарвыканкама, адпаведнае рашэнне падпісаў старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў.

Пры гэтым зазначана, што транспартнікі стратаў не панясуць — іх пакрыюць за кошт сродкаў рэзервовага фонду мэрыі. На гэтыя мэты выдаткавана 108 мільёнаў рублёў.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ТЭМА ДНЯ

## Кремль добивается своего. С помощью газовой атаки

*Похоже, газовая атака Москвы приносит Кремлю желаемые результаты. Мы еще ранее писали, что Александр Лукашенко вынужден будет согласиться на введение в Беларуси российского рубля, после чего его ранг автоматически понизится до ранга российского губернатора. Об этом открыто пишут многие российские издания.*

Так, "Независимая газета" в статье "Минск испугался газовой войны" делает такой вывод: "В ответ на отказ Александра Лукашенко вводить российский рубль в качестве единственного законного платежного средства в Беларуси в Москве отреагировали быстро и жестко. "Газпром" сообщил о прекращении поставок газа в Беларусь по льготным тарифам и повысил цену в 2,5 раза. Похоже, тактика Кремля сработала: в Минске решили, что с введением российского рубля благоразумнее поторопиться".

**Газета "Известия" делает вывод: "Россия резко увеличила давление на Белоруссию. "Газпром" официально отказался создавать совместное предприятие с госкомпанией Белоруссии "Белтрансгазом". Правительство России рассматривает возможность прекратить поставки газа в Белоруссию по внутрироссийским ценам. Обычно подобные решения принимаются только с согласия высшего руководства страны". Далее газета продолжает, что правительство Беларуси и руководство "Белтрансгаза" проводили непрерывные совещания на разных уровнях. Письмо Алексея Миллера, адресованное главе государственной газовой компании Петру Петуху, повергло руководство Беларуси в панику. В письме главный российский газовик отказывается от создания совместного предприятия на базе "Белтрансгаза". Одновременно Миллер обратился к своему правительству с требованием прекратить поставки газа белорусским потребителям по низким российским ценам ($28 за тысячу кубометров).**

И вот стало известно, что президиум Совета министров Беларуси одобрил в четверг проект указа президента Беларуси "Об использовании российского рубля при осуществлении безналичных расчетов на территории Беларуси". Об этом сообщил ПРАЙМ-ТАСС директор департамента секретариата правления — помощник председателя правления Нацбанка Беларуси Сергей Дубков. Он отметил, что проект будет направлен на утверждение в Администрацию президента Беларуси. По его словам, по времени вся процедура прохождения документов может занять до одного месяца.Согласно указу, российский рубль на правах иностранной валюты планируется ввести в параллельное обращение наряду с белорусским 1 октября 2003 г.

Таким образом, Москва силой навязывает свой рубль нашей стране. Что теперь скажет Лукашенко своему народу? Кем он будет, после того как лишится денег?

**Сергей ИВАНОВ.**

ЛЮСТЭРКА

## Адмоўнае сальда ў гандлі Беларусі з Расіяй — болей за 1,5 мільярда долараў

*Знешнегандлёвы абарот Рэспублікі Беларусь за сем месяцаў 2003 года склаў 11 млрд. 778,2 млн. долараў ЗША і павялічыўся ў параўнанні са студзенем—ліпенем 2002 года на 29,2 працэнта. Пра гэта паведаміў на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных.*

Паводле звестак МЗС, тавараабарот з краінамі СНД склаў 7 млрд. 273,8 млн. долараў, ці 61,8 працэнта агульнага тавараабароту рэспублікі, з астатнімі краінамі — 4 млрд. 504,4 млн. долараў, ці 38,2 працэнта агульнага тавараабароту. Вартасны аб'ём знешняга гандлю з дзяржавамі Садружнасці павялічыўся на 30 працэнатў, з дзяржавамі па-за СНД — на 27,9 працэнта.

Экспартавана Рэспублікай Беларусь тавараў на 5 млрд. 556,9 млн. долараў, у тым ліку ў краіны СНД — на 2 млрд. 886 млн., з іх у Расію — на 2 млрд. 597,9 млн.; у дзяржавы па-за СНД — на 2 млрд. 670,9 млн. долараў.

У цэлым у фактычных цэнах экспарт павялічыўся на 26,6 працэнта. У краіны Садружнасці экспарт павялічыўся на 23,2, у тым ліку ў Расію — на 21,4. У краіны па-за СНД беларускі экспарт павялічыўся на 30,6 працэнта. На краіны СНД прыпадала 51,9 працэнта беларускага экспарту, у тым ліку на Расійскую Федэрацыю — 46,7 працэнта яго агульнага аб'ёму.

Агульны аб'ём імпарту склаў 6 млрд. 221,3 млн. долараў, у тым ліку з краін СНД — 4 млрд. 387,8 млн., з іх з Расіі — 4 млрд. 152,2 млн. З дзяржаў па-за СНД імпартавана тавараў на 1 млрд. 833,5 млн. долараў.

Агульны аб'ём імпарту Рэспублікі Беларусь павялічыўся на 31,5 працэнта. Пры гэтым увоз тавараў з краін СНД павялічыўся на 34,8, у тым ліку з Расіі — на 36,4 працэнта. Імпарт з краін па-за СНД павялічыўся на 24,2 працэнта.

Доля краін СНД у агульным аб'ёме беларускага імпарту склала 70,5 працэнта, на расійскія тавары прыпадала 66,7 працэнта імпартных закупак.

Сальда знешняга гандлю склалася адмоўным у памеры 664,4 млн. долараў. З краінамі Садружнасці сальда адмоўнае ў памеры 1 млрд. 501,8 млн. долараў, у тым ліку з Расійскай Федэрацыяй — 1 млрд. 554,3 млн. З краінамі па-за СНД сальда станоўчае ў памеры 837,4 млн. долараў. У параўнанні са студзенем—ліпенем 2002 года станоўчае сальда з гэтай групай краін павялічылася на 268,5 млн. долараў.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Будзем разам!

Шаноўныя сябры!

Да заканчэння падпіскі на IV квартал — менш за тыдзень.

Каб застацца разам, многім з Вас трэба завітаць у любы падпісны пункт і прадоўжыць падпіску на кастрычнік—снежань. Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёння. А каб Вам было зручней, мы друкуем тыпавы бланк: запаўняйце — і на пошту ці ў любы пункт "Белсаюздруку".

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

Ф. РД-1 Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб.

Колькасць камплектаў

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

## Обращение семей похищенных известных людей к гражданам Беларуси





Дорогие земляки, белорусы!

Четыре года назад бесследно исчезли Виктор Гончар и Анатолий Красовский.

Четыре года мы и наши дети живем, а скорее существуем в постоянном кошмаре, не зная, живы ли наши близкие. Власть, которая должна защищать жизнь и права каждого гражданина, делает вид, что ничего особенного в ту сентябрьскую ночь 1999 года не произошло, просто еще два имени добавилось в многотысячной статистике пропавших без вести. Хотя давно уже стало очевидно: и Виктор Гончар, и Анатолий Красовский, и Юрий Захаренко до них, и Дмитрий Завадский после — всех их похитили именно из-за того, кем они были и чем занимались.

Когда человек умирает, его родные и близкие приходят на могилу, чтобы отдать дань памяти и скорби человеку, которого они любили, с которым прожили лучшие годы своей жизни. Но у нас, семей похищенных людей, нет такого места на всей огромной планете, где бы мы могли поклониться этому самому дорогому клочку земли. И поэтому вот уже который год мы собираемся на Октябрьской площади, чтобы напомнить власти, которая не может и не хочет раскрывать эти преступления, что **Мы помним.**

Мы хотим знать правду о судьбе наших родных. И поэтому 16 сентября в 12.30 мы встанем с портретами похищенных в "цепь неравнодушных людей" на Октябрьской площади белорусской столицы, чтобы снова задать свой безмолвный вопрос правителям государства. И если Вы еще не с нами, то у Вас есть возможность поддержать наши семьи и стать рядом с нами. Мы призываем Вас поддержать нашу акцию. Ведь мы поднимаем свой голос и за то, что бы больше ни одну мать, жену, ребенка в Беларуси не постигло такое же горе, как нас...

**Семьи похищенных.**

## Курсы замежных валют на 13 верасня

*Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 13 верасня наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2099 рублёў
1 еўра — 2347,84
1 расійскі рубель — 68,46
1 аўстралійскі долар — 1383,98
1 балгарскі леў — 1206,15
1 дацкая крона -316,01
1 СДР — 2868,77
1 ісландская крона — 26,51
10 японскіх іен — 179,30
1 казахскі тэнге — 14,22
1 канадскі долар -1529,05
1 кувейцкі дынар — 7035,48
1 кыргызскі сом — 49,10
1 латвійскі лат — 3673,11
1 літоўскі літ — 679,92
1 малдаўскі лей — 154,00
1 нарвежская крона — 283,95
1 польскі злоты -530,42
1 сінгапурскі долар — 1198,74
10000 турэцкіх лір -15,24
1 украінская грыўна — 393,51
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3345,28
1 чэшская крона -71,90
1 шведская крона — 257,81
1 швейцарскі франк — 1511,16
1 эстонская крона — 150,04

БЕЛОРУСЫ МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ

# Хроники Анатолия Козловича



*Дорогие мои читатели! Сегодня я начинаю публиковать в "Народной воле" новую, вторую, книгу документально-художественного цикла "Белорусы между небом и землей". Книга первая нынешним летом увидела свет. Кто еще не успел, заходите ко мне за автографом!*

***Анатолий КОЗЛОВИЧ.***

## 1. Белый аист

Посмотрите в осеннее небо: летят перелетные птицы. Как известно, летят они в теплые страны. На полгода Беларусь остается без своего крылатого символа — белого аиста.

Летят перелетные птицы, а мы остаемся с нашей природой, с нашими начальниками, с нашей властью. Не нужен нам берег турецкий, и Африка нам не нужна. Мы не способны остро реагировать на хроническую неустроенность отечества, как реагирует белый аист, который последние полвека неохотно прилетал в Беларусь.

Полвека назад парным летним вечером над моей деревней Горск неслось: "Толик, вэчэраты!" Мама накормила кур, гусей, кабанчика. Напекла блинов, позвала за стол отца, младшего брата, а меня — не нашла. Я сидел на бревнышке за сараем и слушал, как со всех сторон света квакало, постанывало, всхлипывало, посвистывало, похрапывало...

В несчетных болотцах и лужках вокруг Горска славили вечную жизнь жабы, лягушки, земноводные. Я был частичкой бессмертного хорала. Все во мне пело от счастья единения с природой. Та нотка называлась — Толик.

Вдруг в наш хор ворвался речитатив, напоминающий ритмичный стук палки о штакетник, когда ты бежишь рядом с забором, ведя палкой по колышкам, как по струнам музыкального инструмента. Это клекотал аист Петя, живший со своей семьей в гнезде на крыше соседского сарая дядьки Павла.

Резкий клекот аиста не разрушил гармонию во мне, хотя я знал, что завтра раненько аист будет медленно и важно шагать по лужкам и болотцам, зорко высматривать в траве жаб, лягушек и земноводных, чтобы ловко подхватить их клювом и проглотить. Я видел это много раз, когда купался с друзьями в озерцах и ручьях, а рядом с нами, на берегу, аисты занимались охотой. Однажды я видел, как аист подцепил змею и как долго они сражались не на жизнь, а на смерть. Я был на стороне аиста, и он победил. Оттого я еще больше полюбил аистов.

В пятидесятых годах белых аистов в Горске воспринимали как полноправных жителей деревни. Селились аисты на крышах хат и сараев. Усадьбы, где они поселились, считались более счастливыми. Некоторые земляки, желающие себе больше счастья, пристраивали на крыше ненужное колесо от воза или старую борону. Аисты понимали, что для чего, и немедленно ладили на человеческом фундаменте птичье жилье. Обитало тогда в деревне, как подсказывает моя детская, в основном ассоциативная, память, около десяти аистовых семей.

В шестидесятых-семидесятых годах "мелиорация" ликвидировала окрест Горска болота, болотца, лужки, озерца, ручьи, речки. Все до донышка! И не только в Горске, а по всей стране, за исключением труднодоступных районов Полесья. Экологические, экономические, моральные последствия этого преступления зафиксированы в моих книгах. Веками аисты жили вместе с горчаками и вдруг оставили родную деревню. Улетели туда, где еще сохранились болота и естественные луга, а в них — жабы, лягушки, земноводные.

В девяностых годах прошлого века случилось чудо — в Горске вновь объявились аисты. Селиться начали не на крышах, как ранее, а на столбах линии электропередачи, стоящих вдоль улицы. Прошедшим летом я насчитал в Горске одиннадцать гнезд! И только два из них — на крышах сараев. Почему так?

У дяди Миши на заборе я заприметил необычное сооружение из проволоки, напоминающее то ли кош, то ли большой острый шлем. Таковое чудо я видел в большом Мишином хозяйстве впервые и, конечно же, поинтересовался его практическим предназначением. Просто так земляк ничего не делает.

Миша пояснил, что проволочный "шлем" весной надевается на печную трубу, на самый кончик, что торчит над крышей. Как шапка. Зачем? Сейчас растолкую, послушайте внимательно, это очень важно!

Весной Мишину хату облюбовал прилетевший из Африки аист, который, видимо, постоянного жилья в Горске в прошлом году не построил, потому что был аистенком. На печную трубу аист по-деловому приносил и складывал палки, ветки, разный хлам. Строил гнездо.

Аистов дядя Миша уважает, был бы доволен, если бы аист поселился на крыше сарая, а не на печной трубе. Дом Миши уже четверть века отапливается природным газом, но печка ("грубка") и русская печь из дома не выброшены. Стоят на всякий случай: а вдруг газ отключат или заломят бешеную цену? Значит, печная труба должна быть работоспособной, не закрытой гнездом.

Важно и то, что аист — птица чистоплотная, будет испражняться не в гнездо, а на шиферную крышу. Папа, мама, три аистенка обкакают пометом шифер, дождь развезет белесые потеки по крыше сверху донизу. Как на старом молитвенном доме у баптистов (недавно они построили новую церковь). Верующие, помнится, радовались аисту, а когда увидели загаженную крышу, гнездо сбросили. Обидели божью тварь, а это баптистам несвойственно. Значит, причина была уважительной: люди заботились о красоте.

Чтобы не ломать аисту жизнь, дядя Миша решил поступить гуманно. Как только аист принесет очередную палку, Миша снизу кричит ему: "Кыш! Нельзя!" И угрожающе машет руками, топает ногами. Однако аист не курица, на "кыш!" не обращает внимания, человека не боится, носит и носит на трубу стройматериал.

Пришлось Мише изобретать "шлем", надевать его на трубу, превращать свою хату в чучело. На острие "шлема" аист жить не отважился. У него был запасной плацдарм: телевизионная антенна соседа Дмитрия, поднятая в небо на длинном шесте.

Сосед неделю махал, топал, раскачивал шест. Тогда аист выбрал традиционный в последнее десятилетие вариант — поселился на черном столбе деревенской электролинии, над асфальтированной улицей, где толкутся и шумят люди, коровы, машины, комбайны. Там и жил все лето. Там родились и выросли три птенца.

В Европе тоже обратили внимание на то, что нынешние белые аисты гнездятся на столбах ЛЭП. Это новость, можно сказать, мировая, она присутствует в Интернете. Пишут, что численность аистов значительно увеличилась в Польше, видимо, им понравилось, что фермеры перестали осушать и травить химикатами свои небольшие угодья, как делалось там в семидесятые годы, при социализме.

Один польский биолог предположил, что на столбе под воздействием электрического поля получается более жизнеспособное потомство и что сие отпечатывается в генах аистов. И таким образом, дескать, белокрылые птицы эволюционируют.

Не впервой я убеждаюсь, как ученые, стараясь пришить какому-либо новому факту научную подкладку, делаются смешными. Или опасными. Как белорусские ученые-"мелиораторы", в угоду авторитарной власти доказавшие необходимость и полезность тотального осушения. Эволюционируют не аисты, а люди, точнее — социально-экономические и эстетические взгляды людей.

В пятидесятые годы прошлого века аисты не гнездились в Горске на столбах потому, что в деревне отсутствовали и проводное радио, и электричество. Следовательно, и столбы. Хаты накрывали соломой либо осиновой дощечкой-дранкой. Аистовый помет не раздражал горчаков. Эстетические требования к жилью не были у моих односельчан столь высоки, как сейчас. Аистам не запрещали устраиваться на крыше хаты.

Современного же аиста надо бы пожалеть, что вынужден жить на столбе, где не смастеришь такое роскошное гнездо, как на крыше. Я видел, как возле моей хаты аистовая семья, обжив столб, мучилась, а не жила. Жилье на столбе явно тесное. Чтобы сохранить равновесие и не упасть, птицы в гнезде размахивают крыльями. На ночь глава семьи перелетал на соседний столб, устраивался на верхушке. На одной ноге!

Ночью я выглядывал в окно: на столбе на фоне лунного неба не шелохнувшись, на одной ноге стоял-спал мой детский друг Петя. А над деревней звучал лягушачий концерт, он был не такой мощный, как пятьдесят лет назад, но воскрешал надежду.

Аисты вернулись на обжитые за тысячелетия места — вот знаменательный для нашей страны факт. Грандиозное для Беларуси событие двадцать первого века. Аисты вернулись по той кардинальной и простой причине, что теперь Беларусь в состоянии обеспечить им сытный летний прокорм. Что означает, что на исконные места вернулись жабы, жабки, лягушки, жучки-паучки, мелкие грызуны, земноводные, ужи, змеи... А они, в свою очередь, вернулись потому, что в Беларуси началось повторное заболачивание территорий, осушенных и умерщвленных социализмом. Началось самовосстановление изначальной белорусской природы как основы национального менталитета, быта, экономики.

Белый аист мог бы стать символом очередного белорусского возрождения, если бы... Если бы в Беларусь одновременно не возвращалась ползучим страшилищем та система, которая полвека назад прогнала аиста из Беларуси.

Еще раз напомню логику белорусского самоосушения. Так называемый "развитой социализм" держался на командной экономике, учитывающей, прежде всего, не национально-природные особенности подчиненных московской метрополии территорий (фактически — колоний), а "союзное разделение труда". Беларуси вменили в обязанность мясо-молочную специализацию. Для чего понадобились гигантские фермы. Размещенная там скотская орава, естественно, требовала кормежки. Потому "бесполезные" болота превратили в окультуренные кормовые угодья, надеясь вырастить там травы, злаки и картошку.

Поначалу, лет десять, осушенный по примитивной технологии торфяник работал на колхозную ферму, затем неминуемо истощался ("срабатывался", как выражаются специалисты), превращался в песок, в пыль. Во врага птиц, зверья, человека. Чтобы сохранить директивное поголовье скота, безумно осушали новые и новые болота.

В 1991 году "развитой социализм" как высшая ступень хозяйственной идиотии саморазрушился. Процесс иссушения Беларуси, к счастью, прекратился. Белорусы должны молиться на Ельцина, Кравчука и Шушкевича, подписавших в Беловежской пуще справедливый приговор СССР и тем самым сохранивших белорусам естественные условия обитания. Хотя за три десятилетия в Беларуси успели осушить примерно три миллиона гектаров. Их нельзя называть улучшенными.

После 1991 года "мелиорированные" земли стали окончательно приходить в запустение (по разумению нынешних белорусских властей). По моему разумению — начали возрождаться, то есть заболачиваться, зарастать лесом. Превращаться в основу основ нации — исконную среду. Казалось бы, надо порадоваться. Затем — разработать комплексную программу возрождения природы, деревни, экономики, культуры. Увы!

Власти, вооружившись лозунгами СССР, трубят войну здравому смыслу и нашему будущему: спасем национальное достояние — осушенные земли! Возродим крупные фермы! Обеспечим скот собственными кормами, а народ — отечественным продовольствием!

Народ обмануть легко, аиста — никогда.

Глядя вслед птицам, улетающим от нас в теплые страны, я не могу не подумать с тревогой: вернутся ли?

## Беларусь — Германія: кірмаш магчымасцяў

**З 2 па 10 кастрычніка ў Мінску адбудзецца "Нямецкі тыдзень".**

Ён даволі насычаны цікавымі і важнымі падзеямі. Назавём некаторыя. У праграме "Беларусь і Германія: кірмаш магчымасцяў" пройдзе сустрэча прадстаўнікоў сярэдняга бізнесу, дыскусія на тэму "Нямецка-беларускія адносіны".

Цікавасць ўяўляюць мерапрыемствы пад дэвізам "Бяром урокі з гісторыі", такія як "круглы стол" на тэму "Беларусы і немцы: пераадоленне мінулага", сустрэча ветэранаў вайны. Чакаецца таксама сумесны літаратурны вечар, дзень фонда імя Адэнауэра...

**Алесь ДРАБЧУК.**

ТРЫВОЖНА!

## Не п'янствуюць толькі намаўляты...

З года ў год расце на Віцебшчыне колькасць непаўналетніх алкаголікаў. Сёння на ўліку пад наглядам урачоў-нарколагаў — больш за 1600 падлеткаў, якія пакутуюць на хранічны алкагалізм.

За апошнія 5 год выяўляльнасць пітушчых дзяцей на тысячу падлеткаў узрасла ў чатыры разы. Толькі за студзень—жнівень бягучага года выяўлена больш як 800 непаўналетніх, якія ўжываюць алкагольныя напоі і таксіка-наркатычныя рэчывы.

Гэтая трывожная статыстыка, на думку спецыялістаў, у значнай ступені з'яўляецца вынікам ненармальнага псіхалагічнага клімату ў сем'ях, абыякавасцю дарослых да дзіцячага п'янства і тым, што многія бацькі самі свядома ўцягваюць сваіх сыноў і дачок у згубную залежнасць ад алкаголю.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Ваеннапалонныя. 1945—1956»

У Мінскім яўрэйскім абшчынным доме адбылася прэзентацыя унікальнага зборніка "Ваеннапалонныя. 1945—1956".

Кніга выдадзена мінскім дабрачынным таварыствам вязняў гета "Гілф" пры падтрымцы Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын.

У кнізе, заснаванай на архіўных матэрыялах Беларусі, краін Балтыі, Германіі, Расіі і Украіны, адлюстраваныя прававыя, палітычныя, эканамічныя, ваенныя і сацыяльныя аспекты палону.

**Марат ГАРАВЫ.**

НУ І НУ!

## Вербавала сексуальных рабынь

40-гадовая жыхарка Кобрына падазраецца ў вярбоўцы людзей з мэтай сексуальнай эксплуатацыі. Супраць яе распачата крымінальная справа па артыкуле 187 Крымінальнага кодэкса ("вярбоўка людзей для эксплуатацыі"). Падазроную пакуль не затрымалі.

Як паведамляў БелаПАН, у жніўні ў Брэсце ўпершыню ў гэтым годзе была распачата крымінальная справа па артыкуле "гандаль людзьмі". Тады ў якасці падазронага быў арыштаваны і змешчаны ў брэсцкі следчы ізалятар ураджэнец Украіны. Неўзабаве ў следства з'явіліся доказы, што да гэтай "здзелкі" мае дачыненне і 40-гадовая жыхарка Кобрына. Яна абвінавачваецца ў тым, што пад выглядам працаўладкавання ў шоу-бізнесе завербавала і вывезла ў Седльцэ (Польшча) трох дзяўчын, жыхарак Кобрына і раёна. Ад польскага сутэнёра яна атрымала па 300 долараў за кожную дзяўчыну.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ДОЖИЛИ...

## Подайте нищей прокуратуре пустой конвертик!

Закон Республики Беларусь "Об обращениях граждан" обязывает государственные органы рассматривать вопросы, поднятые в письмах граждан, и информировать заявителей о принятых решениях. Естественно, письменно. Установлен также предельный срок реагирования — календарный месяц.

Закон, в общем-то, выполняется. Но вот понадобилось мне обратиться в прокуратуру города Полоцка. И оказалось, что данный орган государственной власти, предназначенный для контроля за исполнением законов другими, не в состоянии исполнять закон сам. В канцелярии прокуратуры предложили прийти за ответом лично, потому как у них нет... конвертов для отправки писем.

Дожили, что называется! Как же тогда прокуратура проводит следственные действия, которые требуют значительно больше денег, чем конверты? Первой моей мыслью было купить и подарить сему нищему государственному органу сотню конвертов за счет сокращения статьи расходов, связанной с подарками внукам в виде мороженого. Однако, поразмыслив, от спонсорства отказался. Потому как в данном случае я лицо заинтересованное и безвозмездно подаренные конверты могут быть интерпретированы как взятка. А статья 431 УК (передача материальных ценностей за благоприятное решение вопроса) предусматривает лишение свободы на срок до... 5 лет.

Но, может быть, найдется спонсор, не имеющий дел с прокуратурой Полоцка, и подарит этому нищему органу государственной власти несколько пачек конвертов с марками.

Надеюсь, эта моя заметка не будет истолкована как посредничество по взятке (ст.432 УК). Срок-то по ней еще больше — 6 лет.

**Валерий ЩУКИН.**

*г.Полоцк.*

ОФИЦИАЛЬНО

## На Минской кольцевой...

В настоящее время на ряде участков кольцевой дороги вокруг Минска продолжает проводиться укладка защитных слоев на дорожном покрытии. В связи с этим дорожники просят автомобилистов извинить за определенные неудобства. К этому хотелось бы добавить, что эти работы плановые и не являются ремонтно-восстановительными. В проектно-сметной документации, определяющей технологию содержания этой дороги, было предусмотрено провести укладку защитных слоев в среднем в течение года после начала эксплуатации тех или иных участков кольцевой.

Суть дела в том, что при реконструкции кольцевой асфальтобетон на ее покрытие укладывали жесткий, чтобы дорога могла выдерживать повышенные нагрузки (11,5 тонны на ось). Теперь настало время положить на ряде участков на этот асфальтобетон профилактическое защитное покрытие. Срок его службы в наших климатических условиях по нормативам до четырех лет.

В этом году укладка защитных слоев на кольцевой началась с 22 июля и планируется ее завершить при благоприятных погодных условиях в конце сентября. Эти работы в 2003 году велись и продолжают вестись по пусковым участкам от 0 до 23 км (от пересечения кольцевой с проспектом Скорины до ее пересечения с улицей Казинца) и от 52 по 56 км (от пересечения с дорогой Минск—Витебск до транспортной развязки с проспектом Скорины).

На участке кольцевой с 23 до 28 км (от пересечения кольцевой с ул.Казинца и до авторынка), который введен в 2000 году, аналогичное покрытие было уже выполнено в 2001 году.

Что касается участка с 28 по 52 км, введенного в 2002 году, то ситуация здесь следующая: с 28 по 34 км (от авторынка до гродненской развязки) эти работы планируется выполнить в 2004 году, а на участке с 34 по 52 км во время реконструкции впервые был применен щебнемастичный асфальтобетон, и его поверхностная обработка будет проводиться в последующие годы.

**Василий КУРЛОВИЧ.**

*(Пресс-служба департамента "Белавтодор".)*

# Мы з табой, Ліцэй!

***Не злічыць лістоў, што прыходзяць у рэдакцыю са словамі гарачай падтрымкі навучэнцам і выкладчыкам Нацыянальнага беларускага ліцэя, зачыненага ўладамі. Пішуць равеснікі ліцэістаў і людзі сталага ўзросту з усіх куткоў Беларусі. Дасылаюць кароткія эмацыянальныя водгукі і грунтоўныя разважанні, вершы і подпісы "за ліцэй" сваіх родных, сяброў і знаёмых, прапановы канкрэтнай дапамогі. Вялікае дзякуй усім па-грамадзянску неабыякавым людзям, хто ў гэты выпрабавальны для лёсу Бацькаўшчыны час не маўчыць, адкрыта выказвае свой пратэст супраць дзяржаўнага гвалту над роднай дзяржаўнай моваю, над законам і ўвогуле над здаровым сэнсам.***

***Прабачце, шаноўныя аўтары лістоў, што рэдакцыя не мае магчымасці надрукаваць іх усе. Многія вашы шчырыя пасланні мы перадаем калектыву Ліцэя. 9-га верасня надрукавалі тэкст паштоўкі ад настаўніка Л.Карповіча з Мастоўскага раёна, у якой сцісла і ясна выказаны агульны змест і галоўны сэнс "ліцэйскіх" допісаў нашых чытачоў. А сёння знаёмім з нататкай ліцэісткі Ганны Косавай.***




## Не завянуць нашы кветкі

Цэлы альбом газетных выразак з артыкуламі і фотаздымкамі пра наш Ліцэй і змаганне за яго назбіраўся ў мяне за мінулае лета і пачатак восені. Асабліва многа публікацый з "Народнай волі". Мы, ліцэісты, усё гэта ўважліва чытаем, перадаём адно аднаму і вельмі ўдзячным знаёмым і незнаёмым добрым людзям, што нас разумеюць і моцна падтрымліваюць. Усе ведаюць, што да нас прыходзілі паэты, пісьменікі, мастакі, грамадскія дзеячы, простыя мінчане. Ніколі не забуду адну сціпла апранутую бабулю, якая падышла да дзяжурных ля варот ліцэістаў і пачала частаваць усіх марожаным, мо купленым на апошнія пенсійныя капейкі... Гэта вельмі і вельмі кранае і дае нам душэўныя сілы, якіх ужо спатрэбілася і спатрэбіцца яшчэ нямала.

Не буду пераказваць пра наша летняе стаянне ля зачыненай брамы ў двор ліцэйскага будынка, з якога выгналі і нас, дзяцей, і нашых дарагіх, найлепшых у свеце настаўнікаў. Пра гэта шмат напісана. Толькі прызнаюся: напэўна, не ўсе мы адразу зразумелі, чаму адбываецца нейкае дзікунства: мы так любім свой Дом, так стараемся вучыцца, стаць карыснымі сваёй краіне, а нас, бы злосны гаспадар свайго "брата меншага", — на вуліцу. Ды ўжо праз дзень-другі нехта з маіх сяброў вывеў мелам на асфальце: "Беларускі ліцэй зачыняюць таму, што ён — беларускі". І трапіў, мне падаецца, у самую кропку.

Перайшла я ў Ліцэй два гады таму з адной прэстыжнай рускай школы ў цэнтры сталіцы, яна побач з маім домам. І я сама, і бацькі разважылі: мы — беларусы, жывём у Беларусі, а як жа расці і рыхтавацца да самастойнасці, калі ў звычайнай навучальнай установе — амаль ніякай беларускасці? (Зараз нават экзамен па роднай літаратуры адмянілі!)

Скажу шчыра, напачатку было вельмі і вельмі цяжка: вялізны аб'ём ведаў, высокая патрабавальнасць настаўнікаў, нагрузка вышэй галавы. Але якім жа ўсё аказалася незвычайным, новым, цікавым! Кожны выкладчык — яркая асоба, інтэлектуал з шырокім кругаглядам, адораны педагог. Кожны ўрок — захапляльнае падарожжа ў свет сусветнай навукі і культуры, далучэнне да багатых духоўных скарбаў нашай Бацькаўшчыны. Разуменне таго, што мудрасць і талент нашых продкаў — неацэнная спадчына, важкая часцінка агульначалавечых здабыткаў. І што без іх, без Радзімы няма будучыні.

Хутка я адчула, што зайздрошчу... сама сабе. Гэта ж так пашчасціла — трапіць у школу, дзе ніякай казёншчыны, дзе пануе цеплыня і ўзаемапавага, дзе сучасныя непаседныя падлеткі сядзяць на ўроках, раскрыўшы рот.

Мо не верыце, думаеце — перабольшваю? Тады спытайцеся ну хаця б у... міліцыянтаў, прыстаўленых наглядаць за намі падчас заняткаў пад дрэвамі, праз дарогу ад недаступнага нам Ліцэя. Нечакана для саміх сябе яны ператварыліся ў такіх жа захопленых, як і дзеці, слухачоў. Урок вёў знакаміты пісьменнік Васіль Сёмуха — глыбокі знаўца і выдатны перакладчык на родную мову шэдэўраў сусветнай класікі, пачынаючы з Бібліі. Дык вось, калі ён змоўк, слухачы ў міліцэйскай форме аж схамянуліся: "Як, ужо ўсё?! А калі працяг можна пачуць?". Нам нават стала іх шкада: напэўна, ні яны, ні іх дзеці не мелі магчымасці вучыцца з такой невыказнай асалодай.

Але камусьці захацелася і ліцэістаў гэтай магчымасці пазбавіць. Толькі мы з равеснікамі і старэйшымі сябрамі з тым не згодны. Не згодны — таму што любім свой Ліцэй і выказваем гэта адкрыта, пра што і напісалі на тратуары і рашотцы ліцэйскай брамы, на майках і малюнках. Будынак зачынены, адабраны, а мы пасля незабыўнага свята Дня ведаў ля дарагіх сцен з дарогі да ведаў не збочылі. Канешне, усё адбываецца ў незвычайных формах і ўмовах: то на лавах ля агароджы стадыёна "Дынама", то ў лесе на паляне, то ў прыстасаваных на хуткую руку памяшканнях. Але кожны дзень — непаўторны, напоўнены і змястоўны, нягледзячы на ўсялякія мітрэнгі і хваляванні. Мы ўсё разумеем і не скардзімся. Хоць і зялёныя яшчэ, ды пасталелі за гэтае лета.

Запомніўся нядаўні, штогадова-традыцыйны ў Ліцэі дзень здароўя, не падобны на ранейшыя: селі мы ў электрычку і рушылі на прыроду. Настрой быў цудоўны, праўда, мне давялося крыху патурбавацца. Справа ў тым, што я трымала ў руках унушальны кошык, а ў ім ляжала, распаўсюджваючы па ўсім вагоне спакушальны пах, толькі што спечаная мамай піца. Сябры дамагаліся, каб хоць кавалачак адшчыкнуць дзеля пробы, я ж трымала характар, баронячы цэласнасць і незалежнасць смачнага печыва: толькі ля кастра!

Сярод лесу знайшлі прыгожую паляну і пасля пастраення і строгіх унушэнняў Уладзіміра Георгіевіча Коласа наконт дысцыпліны заняліся на свежым паветры любімымі відамі спорта — бегам, скачкамі, а хлопцы — практыкаваннямі з гірамі. Усім было хораша, хоць і не ўсім удалося, па праўдзе, захаваць за час канікулаў бліскучую спартыўную форму. Аднак усе былі задаволены і не адчувалі халаднаватага надвор'я. А потым...

...Не паспелі мы раскласці вогнішча, як раптам пачулі аднекуль гуканне:

— Ліцэісты-ы-ы! Ідзём вас вітаць!

Глядзім, а на ўзгорку, нібы ў казцы, — постаці трох "рыцараў": двое — у белых плашчах, а той, што пасярэдзіне, — у чырвоным. Усе ўзрадаваліся, сустрэлі гасцей як мае быць. Імі аказаліся акцёры тэатра "Вольная сцэна". Ну і выдумшчык гэты Валеры Мазынскі! Госці нам цэлы спектакль на паляне разыгралі. А пасля ўсе ўладкаваліся вакол вогнішчаў, ля абрусаў-самабранак, і нарэшце мая піца выканала прызначаную для яе ролю...

А як весела было наступным днём на дыскатэцы ў парку Чалюскінцаў! З'явіліся мы з дзяўчатамі туды... у "сярэдневечных" шляхецкіх строях (гэта — касцюмы ліцэйскага харэаграфічнага ансамбля) і заахвоцілі астатнюю моладзь танчыць пад старадаўнюю — то задумлівую, то агнявістую — музыку гурта "Стары Ольса".

Але пра кніжкі не забываем. Як хочацца ў ліцэйскі клас, але гэта немагчыма. Сустракаемся з настаўнікамі дзе і як прыйдзецца. Але мы любім іх, а яны нас. І падчас нават кароткіх гутарак я нібыта плыву на воблаку і зноў сама сабе ж зайздрошчу: я не адна на дарозе да неспазнанага. Толькі страшэнна шкада, што разам з ліцэйскім будынкам забралі і нашу ўнікальную бібліятэку. Але спадзяюся — не прападзём! "Экстрым" — не вечны.

І нічога, што тыя кветкі, якія мы ранкам 1 верасня ўсклалі да сцен сваёй alma mater, тым жа вечарам некуды зніклі. Нехта, падобна, баіцца і ненавідзіць нават кветкі, ну хіба не смешна? Кветкі ж нашай любові не завянуць ніколі. Яны — недатыкальныя, бо цвітуць у душы.

**Ганна КОСАВА,**
**якая лічыць сябе навучэнкай III курса Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа.**

РУБАМ!

## Ці вычысціць Віцебск «новая мятла»?

"Новая мятла чыста мяце". Так звычайна гавораць у народзе пра новых начальнікаў. Нібыта пацвярджаючы справядлівасць гэтай старадаўняй прымаўкі, новы старшыня Віцебскага гарвыканкама Пётр Драздоў пачаў сваю гаспадарчую дзейнасць з ачысткі русла рэчкі Віцьбы, якая калісьці дала імя гораду. Драздоў зацвердзіў стварэнне арганізацыйнай групы, якая абавязана кантраляваць і накіроўваць навядзенне чысціні і парадку ў пойме Віцьбы і на яе берагах.

Група, якую ўзначаліў кіраўнік справамі гарвыканкама Васіль Пашкевіч, у сваю чаргу стварыла рэйдавую брыгаду з кіраўнікоў і спецыялістаў гарадскіх экалагічнай, камунальнай, архітэктурна-будаўнічай ды іншых службаў, якая неадкладна рушыла на берагі Віцьбы, што двойчы перасякае цэнтральную частку горада. Уражанні ў "назіральнікаў" склаліся жахлівыя. Прадстаўнікі ўлады на кожным кроку сустракаліся з кучамі непрыбранага смецця, бачылі пачварныя "нічыйныя" пабудовы, самавольна ўтвораныя стаянкі машын, бруд і неўладкаванасць. І ўсё гэта — пасля нядаўняга "суботніка" па ачыстцы Віцьбы!

Як ужо неаднаразова паведамлялася ў друку, на працягу амаль усяго жніўня рэчышча Віцьбы прыводзілі ў парадак валанцёры абласнога маладзёжнага лагера "Віцязь". Але праз два—тры тыдні пасля ўдарнай працы школьнікаў камунальнікі не змаглі вывезці з берагоў рэчкі сабраныя валанцёрамі хлам, смецце і вырублены хмызняк.

Рэйдавая брыгада пераканалася, што Віцебск, які ўсё часцей называюць "культурнай сталіцай" Беларусі, зусім не заслугоўвае такога тытулу. Як і многія правінцыйныя гарады і мястэчкі, Віцебск бывае чыстым і ўпарадкаваным толькі напярэдадні "славянскіх базараў" ды запланаваных візітаў прэзідэнта, а звычайна многія аб'екты ўяўляюць сабой узор бытавога дзікунства. За прыгожымі фасадамі і цэнтральнымі тратуарамі хаваюцца стыхійныя звалкі смецця, а двары некаторых будынкаў уяўляюць сабой смярдзючыя клаакі.

Так было ў Віцебску і 100, і 50, і 30, і 20 гадоў таму. Такім славуты абласны горад, "культурная сталіца" застаецца і сёння. Ці зможа Пётр Драздоў стаць той "новай мятлой", якая ачысціць Віцебск ад хламу і бруду, навядзе парадак не толькі ў цэнтры, але і на ўскраінах?

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЛИКБЕЗ

## СДР — что это за валюта?

С недавних пор наша газета начала публикацию официальных курсов иностранных валют, среди которых значится и такая, как СДР. Для некоторых она незнакома.

СДР — производное от английского Special Drawing Rights — специальное право заимствования (работникам почты эта валюта известна как СПЗ). СДР — безналичная валюта Международного валютного фонда, используемая для подсчета взаимных паритетов между странами. Эта валюта предназначена также для выражения золотовалютных резервов страны.

Необходимость во введении такой валюты назрела, когда годовая добыча золота стала отставать от темпов роста торговли. Так, за период с 1948 по 1969 год, золотые запасы стран — членов МВФ возросли на 13%, а объем торговли — в 2,5 раза. США и Великобритания свободно обменивать деньги на золото (по действовавшей в то время Бреттон-Вудской финансовой системе — гаранты мировой финансовой стабильности) могли только до 1959 года. В результате стало невозможно выражать взаимные паритеты стран через золото, как это происходило до этого 5 тысяч лет существования государств. В то время курсы всех мировых валют выражались непосредственно через доллар США или опосредованно — через британский фунт стерлингов (его курс постепенно снижался за время существования Бреттон-Вудской системы с 4 до 2,4 доллара). Стоимость доллара США выражалась через золото.

Из-за кризиса Бреттон-Вудской системы в марте 1973 года страны — члены МВФ были вынуждены перейти к системе плавающих курсов. В июле 1974 года золотой паритет в системе МВФ был заменен валютной корзиной СДР. Это решение было закреплено на Ямайской конференции в январе 1976 года, поэтому действующая сейчас международная финансовая система носит имя Ямайской.

С 1976 года страны — члены МВФ могут избирать как фиксированный, так и плавающий валютный курс, но им запрещено выражать его через золото.

Курс мировой безналичной валюты СДР выражается уже не через один американский доллар, а через четыре различные валюты. Хотя сначала их было пять: доллар США, немецкая марка, французский франк, британский фунт стерлингов и японская йена. Но в 2000 году немецкую марку и французский франк заменил евро.

Опыт СДР оказался более чем положительным: вначале Европейское экономическое сообщество перешло на ЭКЮ, а потом его преемник, Европейский Союз, перешел на евро в 2000 году.

**Антон ЛЮБИЧ.**

